# ПЕРШЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСКІХ КІНЕМАТАГРАФІСТАЎ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

лонаў», «Гадзіннік спыніўся апоўначы», «Шчасце трэба берагчы», «Чырвонае лісце», «Першыя выпрабаванні» і іншыя былі створаны на аснове твораў беларускіх пісьменнікаў. Трэба і надалей больш смела экранізаваць творы беларускай прозы і драматургіі, прыцягваючы да гэтай работы саміх аўтараў. Гэта наблізіць пісьменніка да кінематографа.

Кінадраматургія — самастойны від вялікай літаратуры. Гэта агульнавядома. Аднак у практыцы мы не заўсёды зыходзім з гэтай правільнай думкі. Недаацэньвае сцэнарны жанр наша крытыка. Пра сцэнарый яна гаворыць толькі тады, калі фільм паявіўся на экране, а больш дакладна, калі ён пацярпеў няўдачу. Ды і выдавецтвы не вельмі спрыяюць развіццю сцэнарнай справы. Ці выдадзена была калі-небудзь у нас, у Беларусі, хоць адна кніга сцэнарыяў? У лепшым выпадку, каму-небудзь з пісьменнікаў часам удаецца ўгаварыць рэдакцыю таго ці іншага часопіса надрукаваць сцэнарый. Але часопісы бяруцца за гэтую справу вельмі неахвотна. Саюз работнікаў кінематаграфіі разам з Саюзам пісьменнікаў БССР павінны дамагчыся, каб у корані змянілася такое няправільнае стаўленне да сцэнарнай літаратуры. Літаратурныя сцэнарыі трэба друкаваць у часопісах і выдаваць асобнымі выданнямі пастаянна, а не ад выпадку да выпадку. Гэта значыць, што сцэнарыі, яшчэ да таго, як яны будуць запушчаны ў вытворчасць, будуць шырока абмяркоўвацца, падвяргацца разгляду і крытыцы ў часопісах, газетах, у творчых секцыях Саюза пісьменнікаў і Саюза кінематаграфістаў.

У мэтах далучэння пісьменнікаў да кіно аргбюро Саюза кінаработнікаў і кінастудыя сумесна з Саюзам пісьменнікаў БССР правялі ў лютым гэтага года семінар кінадраматургаў. Гэты першы вопыт аказаўся вельмі каштоўным. Намі вырашана правесці ў студзені—лютым наступнага года другі семінар кінадраматургаў, які ставіць сваёй мэтай пашырыць кола беларускіх пісьменнікаў, што працуюць для кінастудыі.

На жаль, да гэтага часу не арганізавана ў нас пры студыі сцэнарная майстэрня, дзе б раслі і выхоўваліся маладыя кадры прафесіяналаў-сцэнарыстаў. Таленавітай пісьменніцкай моладзі ў нас многа, трэба толькі ўмець яе зацікавіць, навучыць.

У сувязі з рэарганізацыяй сцэнарных аддзелаў студыі трэба адмовіцца ад усяго коснага і руціннага, што назіралася ў мінулым. У першую чаргу трэба ліквідаваць атмасферу бесклапотнасці, самасупакаення, застою. Ці часта наш сцэнарны аддзел натхняў, накіроўваў рэжысёра на новую цікавую задуму ці жыццёва хвалюючы матэрыял? Прыходзячы ў сцэнарны аддзел, рэжысёр часта знаходзіць сцэнарыі на абкатаныя сюжэтныя схемы, са штампаванымі характарамі, задумамі, пазбаўленымі вялікіх думак і пачуццяў. Рэжысёр у асобе рэдактара сцэнарнага аддзела не заўсёды знаходзіў шчырага памочніка, чулага дарадчыка і сябра на вялікім складаным шляху нараджэння фільма ад задумы і заяўкі, да экраннага ўвасаблення.

Цяпер яшчэ рана гаварыць пра канкрэтныя выгады ад рэарганізацыі сцэнарнага аддзела ў сцэнарную рэдакцыйную калегію. Аднак тое, што на штатную працу ў студыю прыйшло шмат пісьменнікаў, дасць бясспрэчна карысць. Ад сцэнарнай рэдакцыйнай калегіі мы чакаем многага, мы хочам у яе асобе бачыць сапраўды творчы штаб, які адказвае за студыю, за ўсё тое, што выпускае яна на экран.

Адна з асноўных задач сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі — гэта стварэнне прадуманага рэальнага тэматычнага плана. Да гэтага часу ў гэтай адказнай справе наглядаецца самацёк.

Зусім адсутнічаюць у нашых сённяшніх і бліжэйшых планах сцэнарыі, прысвечаныя рабочаму класу, сцэнарыі, якія расказваюць пра ўсё тое новае, чым жыве наша рэспубліка сёння, пра герояў нашага часу, пра новыя з'явы ў нашым жыцці, у якім ужо выразна відаць рысы камунізма. Не аддаецца ў нашых планах дастаткова ўвагі гісторыка-рэвалюцыйнай і партыйнай тэматыцы, мала плануецца вясёлых камедый, музычных фільмаў, кінакарцін для дзяцей. Вырашэнню гэтых генеральных задач і павінна быць падпарадкавана работа ў галіне сцэнарыяў.

Гаворачы пра сцэнарыі і тэматычнае планаванне, нельга не закрануць пытання аб нацыянальнай форме нашых кінафільмаў. Няма неабходнасці шырока распаўсюджвацца аб патрабаванні нацыянальнай своеасаблівасці ў нашай творчасці. Бо інтэрнацыянальнае, агульначалавечае ў рэалістычным мастацтве не можа раскрыцца інакш, як праз нацыянальнае. Вось чаму трэба імкнуцца да таго, каб не толькі па пачатковых цітрах глядач пазнаваў, што карціна створана на студыі «Беларусьфільм», а каб гэта было відаць з усяго мастацкага ладу фільма.

Гэта не значыць, што нашы студыі не павінны цікавіць тэмы з жыцця іншых братніх рэспублік — нам патрэбна смялей ставіць фільмы ў творчым супрацоўніцтве з іншымі студыямі краіны. Але галоўнае і асноўнае месца ў рабоце «Беларусьфільма» павінны заняць сцэнарыі аб працы і жыцці працоўных рэспублікі.

Нашаму кінематографу яшчэ належыць «прачытаць» беларускую класіку, лепшыя творы сённяшняй беларускай літаратуры. Кінематаграфістам рэспублікі трэба смялей увасабляць на экране гераічнае мінулае нашага народа, яго самаадданую барацьбу разам з іншымі народамі краіны супраць самадзяржаўя, супраць прыгнёту памешчыкаў і капіталістаў. Неабходна паказаць вялікі подзвіг беларускага народа ў дні Кастрычніка, бітву з ворагам у гады грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, калі на поўную меру праявіліся лепшыя гераічныя рысы характару працоўных Беларусі.

Варта паклапаціцца аб падрыхтоўцы і выхаванні сваіх нацыянальных кадраў кінаакцёраў. Да стварэння фільмаў недастаткова прыцягваюцца і артысты нашых тэатраў. Толькі слабым знаёмствам асобных рэжысёраў з артыстычнай інтэлігенцыяй нашай рэспублікі можна растлумачыць той факт, што часта, без усялякай на тое патрэбы, на ролі, якія могуць лепш і больш праўдзіва сыграць беларускія выканаўцы, запрашаюцца артысты з далёкіх гарадоў краіны. Так, для ўдзелу ў здымках кінанавел «Юныя летуценнікі» нават на эпізадычныя ролі былі запрошаны артысты з Масквы, Ленінграда.

Агульнавядома, якое значнае месца заняла ў апошні час у савецкай кінематаграфіі моладзь. Яе прыход у кіно ўзбагаціў наша мастацтва новымі яркімі фільмамі і вобразамі. Гэты працэс быў заканамерны пасля XX і XXII з'ездаў партыі, калі творчыя сілы народа выйшлі на шырокую дарогу свайго развіцця.

У далейшым прыток новых маладых сіл у кінамастацтва яшчэ больш будзе пашырацца і расці, і задача цяпер заключаецца ў тым, каб даць таленавітай моладзі правільны напрамак. Тут не можа быць месца грубаму адміністраванню, ушчымленню творчай індывідуальнасці, ініцыятывы. Трэба вельмі ўважліва прыглядацца і прыслухоўвацца да кожнага таленавітага чалавека, клапатліва выхоўваць яго і расціць. Разам з тым мы не павінны захапляцца кожным маладым толькі таму, што ён малады, і авансам запэўняць яго, што ён таленавіты і г. д. Гэта можа прынесці моладзі непапраўную шкоду.

Сярод нашай кінематаграфічнай моладзі ёсць здольныя людзі, якія могуць з часам вырасці ў сапраўдных майстроў. Нам неабходна шырока выкарыстоўваць вопыт вядучых кінастудый краіны, дзе, як правіла, для першай работы ў кіно маладога рэжысёра ставяць поплеч з вопытным аператарам і акцёрамі, якія маюць за плячыма дзесяткі зробленых карцін. Відаць, і сцэнарый, над якім пачынае працаваць малады рэжысёр, павінен быць бездакорны ў мастацкіх і вытворчых адносінах. Яго трэба забяспечыць і вопытнымі акцёрамі, якія да гэтага здымаліся ў многіх карцінах. Усё гэта дазволіла б маладому рэжысёру накапіць той каштоўны вопыт практычнай работы, якога яму не хапае. На жаль, маладыя рэжысёры часта пагарджаюць магчымасцю браць гэты вопыт ад старэйшых і тым самым расцягваюць перыяд свайго вучнёўства, беручы ў карціну акцёраў такіх жа нявопытных, як і яны самі.

За апошнія два гады ў калектыў нашай студыі ўлілася група моладзі з ліку выпускнікоў Дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі — рэжысёры, аператары, мастакі, і таму натуральна паўстала пытанне аб стварэнні належных умоў для іх плённай працы. Для гэтага была арганізавана маладзёжнае аб'яднанне. Яшчэ рана гаварыць аб правільнасці ці няправільнасці такой формы работы. Мы можам выказаць толькі сумненні, якія выклікае такі падзел па ўзроставых катэгорыях. Атрымоўваецца, што на студыі існуюць арганізаваная моладзь і неарганізаваныя «старыя».

Мы ведаем, што кіраўнік маладзёжнага аб'яднання С. Скварцоў аддае выхаванню маладых шмат сіл, але вынікаў калектыўнай працы пакуль што няма. Відавочна, яшчэ не знойдзены формы і метады гэтай работы. Наўрад ці варта абмяжоўваць гэтае творчае аб'яднанне такім вельмі часовым паняццем, як «маладзёжнае». Творчыя аб'яднанні павінны ствараіцца на творчай аснове, г. зн. на аснове мастацтва, а мастацтва не ведае прынцыповага падзелу на маладых і старых.

У нашай моладзі ёсць боязь, што калі яна ўвойдзе ў кантакт са старэйшым пакаленнем, яна быццам бы страціць самастойнасць, свабоду творчай індывідуальнасці. У наш час няма падставы для такой боязі. Кожны малады работнік у нас мае вялікую магчымасць адстайваць свае перакананні, свае пазіцыі. Калі гэтыя перакананні будуць правільныя, яны заўсёды знойдуць падтрымку і заахвочванне.

Беларускае дакументальнае кіно нарадзілася на рыштаваннях маладой рэспублікі як «вобразная кінапубліцыстыка», якая прапагандуе велічныя справы народа. Кінахранікёры заўсёды былі там, дзе вырашаўся лёс нашай краіны.

Нябачны размах будаўніцтва, упэўнены поступ да камунізма ставяць перад кінадакументалістамі новыя адказныя і пачэсныя задачы.

З 1961 года ў Мінску працуе як самастойная творчая арганізацыя — студыя навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў, якая за гэтыя два гады павялічыла колькасць выпускаемых карцін і часопісаў і ў некаторай ступені дабілася паляпшэння іх якасці. Зараз студыя выпускае ў год 52 кіначасопісы і 32 фільмы.

Выпушчаныя ў БССР антырэлігійныя фільмы «Праўда пра сектантаў - пяцідзесятнікаў», «Праўда пра «святыя месцы», «Ад цемры да святла» дэманстраваліся па ўсім Савецкім Саюзе, дубліраваны на многія мовы і паслужылі стымулам для іншых кінастудый у справе стварэння антырэлігійных фільмаў.

Карысталіся поспехам у гледача і некаторыя з фільмаў на гістарычныя тэмы, такія, як «Цытадэль славы», «Людзі з чорнымі душамі», «Помста», «Марат Казей», «Дачка партыі», фільмы пра народных паэтаў Беларусі Янку Купалу і Якуба Коласа і рад іншых.

Вялікую работу праводзіць студыя па стварэнню навукова-папулярных фільмаў на сельскагаспадарчыя тэмы. Сярод іх неабходна адзначыць такія, як «Блакітная цаліна», «Новыя меліярацыйныя машыны», «Магутны рэзерв». На студыі выпушчана некалькі фільмаў пра перадавікоў прамысловасці і рабочы клас Беларусі. Лепшыя з іх — «Дом на праспекце» і «Мая сям'я».

Але сярод знятых у 1961-62 годзе было нямала і слабых фільмаў, такіх, як «У палоне рэчаў», «Сельскі клуб», «Зоры калгасныя». Усе гэтыя нарысы прымітыўныя па думцы, бедныя па свайму кінематаграфічнаму вырашэнню. Нашы дакументалісты слаба выкарыстоўваюць разнастайныя творчыя формы і жанры. У многіх іх працах паўтараюцца ранейшыя прыёмы, аднолькавыя кампазіцыі, прымітыўны мантаж і малавыразная музыка.

Усё гэта вынікае з таго, што на студыі няма аб'ектыўнасці і самакрытычнасці ў ацэнках агульнага стану справы і якасці выпускаемай прадукцыі. Тут прызвычаіліся вымяраць работу колькаснымі паказчыкамі, а пра якасць прадукцыі, пра тое, як прымаюць фільмы і часопісы нашы гледачы, гавораць неахвотна і мала. Асобныя творчыя работнікі хваравіта рэагуюць на крытычныя заўвагі мастацкага савета і камісіі Міністэрства культуры БССР.

Да гэтага часу на студыі не вырашана сцэнарная праблема. Не ўмацавана кіраўніцтва сцэнарнага аддзела. Звонку тут усё нібыта гладка: па ўсіх тэмах падабраны аўтары і зроблены заказы на літаратурныя сцэнарыі. А вось якасць работ, якія здаюцца аддзелам, яўна нізкая, не адпавядае сучасным патрабаванням. Сцэнарыі рэдка падымаюць вялікія праблемы, няма цікавых, арыгінальных кінематаграфічных вырашэнняў тэм. У 1961—1962 гг. студыя не прыцягнула да работы ніводнага вядомага прафесіянала-сцэнарыста па дакументальных і навукова-папулярных фільмах. Рэдактарскі калектыў, які ўзначальвае тав. Багушэвіч, непатрабавальны да аўтараў. Часта слабыя ці зусім непрыгодныя сцэнарыі перадаюцца здымачным групам праз галаву мастацкага савета, а часам і насуперак яго думцы — як гэта было з фільмамі «Маладыя кукурузаводы», «Апошні хутар» і інш.

Тэматычныя планы студыі абмяркоўваюцца з творчымі работнікамі, але ў вышэйстаячых інстанцыях — у Міністэрстве культуры БССР і ў Упраўленні па вытворчасці фільмаў СССР яны поўнасцю змяняюцца і перарабляюцца без усялякага ўліку магчымасцей студыі і творчых заявак рэжысёраў. У выніку, напрыклад, у план Мінскай студыі на 1962 год былі ўключаны такія тэмы, як «Бавоўна» або «Захоўванне бабовых культур» з аб'ектамі здымак на Украіне і Алтаі. У той жа час у Беларусі іншыя студыі краіны здымаюць фільмы аб новых меліярацыйных машынах, аб нафтаправодзе «Дружба».

Студыя павялічыла выпуск кіначасопісаў. Але рэжысёраў і аператараў, якія пастаянна працавалі б у жанры хронікі, у калектыве няма, і ў большасці выпадкаў сюжэты здымаюцца асістэнтамі аператараў. У часопісах вельмі мала нарысавых сюжэтаў, мала цікава распрацаваных і знятых тэм. І па-ранейшаму не хапае аператыўнасці. Дрэнна выконваюцца планы па здымках сюжэтаў для саюзнага экрана.

Гаворачы аб надзённых задачах у галіне «самага масавага з мастацтваў» — кіно, нельга не сказаць тут і пра тэлебачанне. У нас пры саюзе створана секцыя тэлебачання.

Паказ кінафільмаў з агульнага пракатнага фонду і дэманстрацыя кінанарысаў і канцэртных праграм, знятых на кінаплёнку, складае каля 70 працэнтаў усёй праграмы тэлебачання. Тэлебачанне ўзяло на сваё ўзбраенне амаль усе выяўленчыя сродкі кінематографа: мантаж, план, ракурс, дэталь і толькі агульныя планы — пластыка, некаторыя прынцыпы колеру і інтэнсіўны рух пакуль яшчэ некалькі застаюцца «па-за кадрам» тэлевізійнага экрана. Гэтымі апошнімі акалічнасцямі і тлумачацца недахопы тэлефільмаў.

Пракат кінафільмаў, створаны для кінатэатраў, на тэлебачанні з'яўляецца тэхнічна недасканалым, бо пры іх стварэнні не была ўлічана спецыфіка малога экрана. Між тым многія фільмы псіхалагічнага плану, якія раскрываюць унутраны свет чалавека, у многім выйграюць на малым экране. У сувязі з гэтым патрэбна здымаць у нас у рэспубліцы фільмы спецыяльна для тэлебачання так, як гэта робіць «Масфільм» у сваім спецыяльна арганізаваным аб'яднанні тэлевізійных кінатвораў.

З дапамогай нашага творчага саюза тэлебачанне ў Мінску і абласных цэнтрах можа значна пашырыць і ўзмацніць свае пазіцыі ў справе эстэтычнага выхавання народа.

Нельга прайсці міма такой прыкметнай з'явы нашага часу, як кінааматарства. Яно ўсё больш развіваецца і ў Беларусі. Калі на першы рэспубліканскі агляд у 1958 годзе было прадстаўлена 17 аматарскіх фільмаў розных жанраў ад шасці кінастудый, дык цяпер у нас налічваецца больш 30 кінастудый, у якіх удзельнічаюць звыш 250 чалавек.

Актывісты многіх самадзейных кінастудый стварылі і ствараюць фільмы, у якіх адлюстроўваецца жыццё прадпрыемстваў, саўгасаў, перадавікоў вытворчасці, брыгад і ўдарнікаў камуністычнай працы, быт і адпачынак працоўных і членаў іх сем'яў.

У канцы верасня 1962 года быў праведзены трэці рэспубліканскі агляд аматарскіх фільмаў. З 22-х прадстаўленых на ім фільмаў дзевяць адзначаны дыпломамі і грашовымі прэміямі. Прысуджаны таксама дыпломы за лепшую рэжысёрскую і аператарскую работу. Шэсць фільмаў з ліку створаных у 1961 і 1962 гадах прадстаўлены ў Маскву на другі Усесаюзны агляд.

Наш саюз сумесна з Белсаўпрофам і Міністэрствам культуры БССР у канцы красавіка 1962 года правялі трохдзённы рэспубліканскі семінар кіраўнікоў аматарскіх кінастудый. Для ўдзельнікаў семінара былі прачытаны лекцыі на розныя тэмы.

Трэба сказаць, што асобныя кінааматары і самадзейныя студыі не атрымліваюць належнай дапамогі з боку прафсаюзных арганізацый, устаноў, Міністэрства культуры і прафесіянальных работнікаў кінамастацтва. У большасці выпадкаў аматарскія студыі працуюць адасоблена, ізалявана адна ад адной, іх дзейнасць належным чынам не накіроўваецца і не кантралюецца.

Тэлестудыі Мінска, Віцебска, Гомеля таксама не аказваюць неабходнай дапамогі кінааматарам.

Аматарскую кінематаграфію ў многім стрымлівае таксама тэхнічная база. Няма дзе набыць кіназдымачных камер, негатыўнай шаснаццацімілімятровай кінаплёнкі і іншых матэрыялаў.

Пастаянная апека і метадычная дапамога кінааматарам — святы абавязак нашага саюза.

Калі мы гаворым пра надзённыя творчыя праблемы кінамастацтва, мы адначасова абмяркоўваем на нашым з'ездзе і работу аргбюро саюза, праробленую за пяць гадоў яго існавання.

З горыччу мы вымушаны адзначыць, што за справаздачны перыяд мы не здолелі вырашыць галоўнай задачы — рашуча ўплываць на кінавытворчасць і садзейнічаць стварэнню высокаідэйных і мастацказначных фільмаў. Секцыйная работа была ў значнай ступені адарвана ад жыцця студый і зводзілася, галоўным чынам, да культурна-асветных мерапрыемстваў — да інфармацыйных і грамадскіх праглядаў, лекцый і абмеркаванняў гатовых карцін. Прычым і гэтыя мерапрыемствы часта праходзілі не на належным узроўні, не заўсёды старанна яны рыхтаваліся і таму не выклікалі вялікай актыўнасці ў прысутных.

У нас няма Дома кіно. А спецыфіка нашай работы такая, што спецыяльнае памяшканне абавязкова патрэбна. Каб паглядзець і абмеркаваць карціну, трэба мець залу з праекцыйнай апаратурай, не гаворачы ўжо пра іншыя памяшканні, неабходныя для клубнай работы. У гэтых адносінах кінематаграфісты Мінска знаходзяцца ў куды горшым становішчы, чым нашы таварышы з іншых саюзных рэспублік. А Міністэрства культуры чамусьці лічыць гэта другарадным пытаннем.

Не аддаём мы сапраўднай увагі і выхаванню кінаработнікаў. Тут наша работа абмяжоўвалася толькі арганізацыяй семінараў па марксісцка-ленінскай эстэтыцы. А гэтага яўна недастаткова. Пытанне выхавання непарыўна звязана з пытаннем павышэння ідэйна-мастацкага ўзроўню нашых карцін.

Узрослыя патрабаванні народа да нашага кінамастацтва вымагаюць зараз ад кожнага творчага работніка, каб ён вывучаў жыццё, штодзённа накапляў і развіваў у сабе маральныя якасці сучаснага чалавека, павышаў ідэйны і прафесіянальны ўзровень сваіх ведаў і навыкаў у працы, усвядоміў свой грамадзянскі абавязак перад народам.

Выхаваўчая работа ў кожным калектыве не павінна абмяжоўвацца правядзеннем некіх мерапрыемстваў. Грамадская актыўнасць усіх членаў саюза сама па сабе — лепшая выхаваўчая сіла. Стварыць умовы для росту грамадскай актыўнасці — такая бліжэйшая наша задача.

Трэба таксама адзначыць, што наш аддзел прапаганды кінамастацтва працуе слаба. Ён не заваяваў папулярнасці ў гледача, не вынес сваю дзейнасць за межы горада Мінска, на перыферыю.

Мы надзвычай слаба звязаны з гледачом, мала праводзім творчых сустрэч праглядаў і абмеркаванняў карцін. Нам трэба падумаць і аб тым, каб аддзел прапаганды кіно апроч сваіх звычайных функцый займаўся таксама зборам і сістэматызацыяй думак, пажаданняў і прапаноў гледачоў, праводзіў бы апытанні праз анкеты ці вусна, праз глядзельныя арганізацыі, што існуюць пры кінатэатрах і рабочых клубах.

Вялікім недахопам нашай работы было і тое, што мы, прымаючы пэўныя рашэнні, не заўсёды маглі дамагчыся іх выканання. Саюз фактычна не меў арганізацыі, якая б знаходзілася непасрэдна на студыі, бо творчая секцыя студыі падпарадкоўвалася не саюзу, а прафсаюзам. Гэты недахоп характэрны для ўсіх нашых рэспубліканскіх саюзаў, у тым ліку для Маскоўскай і Ленінградскай арганізацый, а мы часам механічна капіравалі іх арганізацыйныя формы. Аб гэтым варта падумаць, а магчыма і прапанаваць свае рэкамендацыі для Статута, праект якога мы будзем абмяркоўваць на з'ездзе.

Зусім натуральна, што наш саюз нясе поўную адказнасць за ўсё тое, што робіцца ў кіно. Але трэба ўлічваць і тое, што мы пазбаўлены магчымасці дзейснага ўдзелу ў справе падрыхтоўкі і вытворчасці карцін.

Планаванне вытворчасці, падрыхтоўка сцэнарыяў, абмеркаванне матэрыялу — словам, усе важнейшыя этапы работы студыі праходзяць міма нас. І таму мы не можам гаварыць аб практычным уплыве нашай арганізацыі на якасць фільмаў.

Мы павінны дамагчыся такога становішча, пры якім усе важныя пытанні жыцця студыі вырашаліся б пры нашым абавязковым удзеле. Асабліва гэта датычыць пытанняў падрыхтоўкі і зацвярджэння сцэнарыяў. Неабходна распрацаваць і ўстанавіць як абавязковае правіла такую сістэму адносін, пры якой рэдакцыйныя калегіі студый мелі б пастаянны рабочы кантакт з органамі саюза і ў сваіх рашэннях абапіраліся на думку праўлення саюза. Дарэчы, менавіта такая рэкамендацыя ёсць у пастанове ЦК КПСС, дзе зусім ясна гаворыцца, што рэдкалегія павінна прыцягваць да ўдзелу ў штодзённай працы рэжысёраў, сцэнарыстаў, аператараў і іншых творчых работнікаў, якія маюць вялікі вопыт у кінематографе.

Відаць, трэба стварыць сцэнарную камісію пры саюзе, якая працавала б разам з рэдактарскім апаратам студыі і прымала ўдзел ва ўсіх справах і задумах рэдакцыйнай калегіі. Зразумела, што і дырэкцыя студыі і яе рэдактура павінны лічыцца з думкамі і рэкамендацыямі гэтай грамадскай арганізацыі.

Формы нашай арганізацыйнай работы не зусім адпавядаюць патрабаванням, што стаяць перад Саюзам работнікаў кінематаграфіі. Вось чаму яны павінны быць сур'ёзна, па-дзелавому абмеркаваны на з'ездзе. Нам трэба высветліць і зразумець прычыны, чаму члены саюза, і нават моладзь (што асабліва прыкра), не праяўляюць вялікай цікавасці да працы сваёй арганізацыі, мала ўдзельнічаюць у рабоце саюза.

Поспех і няўдача нашай работы залежаць ад кожнага з нас, ад нашых думак і ад рашэнняў, якія будуць прыняты намі на з'ездзе.

Вялікія і складаныя творчыя справы прадстаіць ажыццявіць нам — савецкім кінематаграфістам. Мы заклікаaны актыўна садзейнічаць у ажыццяўленні задач, вызначаных XXII з'ездам партыі і новай Праграмай КПСС.

Абавязак, гонар і сумленне кожнага творчага работніка беларускага кінамастацтва — унесці свой уклад у справу ўсенароднай барацьбы за пабудову камуністычнага грамадства.

Слуцкага мастака Уладзіміра Садзіна добра ведаюць на Салігорскім калійным камбінаце, на новабудоўлях маладога беларускага горада. Яго можна часта бачыць тут з мальбертам і пэндзалем у руках. Ул. Садзін напісаў ужо некалькі карцін з жыцця і працы салігорскіх шахцёраў. Вось і на гэтым здымку вы бачыце мастака, які піша панараму Салігорска.

Фота Н. ЮЖЫКА. БЕЛТА.



# Магілёўскія НАВІНЫ

## СУСТРЭЧЫ З ЧЫТАЧАМІ

У Магілёўскай вобласці жывуць і працуюць члены Саюза пісьменнікаў БССР П. Шасцерыкоў, А. Пысін, В. Матэвушаў, А. Макарэвіч, А. Іваноў, М. Герасімаў, Я. Усікаў. Рэгулярна аддзяленне Саюза пісьменнікаў наладжвае сустрэчы іх з рабочымі, інтэлігенцыяй, калгаснікамі.

Нядаўна такая сустрэча адбылася ў Пячэрску — на далёкай гарадской ускраіне. У клубе былі выстаўлены творы пісьменнікаў. В. Матэвушаў, П. Шасцерыкоў, А. Пысін расказалі пра сваю працу.

Творчы вечар А. Пысіна праведзен у савецка-партыйнай школе. Паэт пазнаёміў слухачоў з новымі вершамі, адказаў на пытанні.

## ВЫСТАЎКА Ў ТЭАТРАЛЬНЫМ ФАЕ

Афіша пры ўваходзе ў абласны драматычны тэатр запрашае наведаць выстаўку мастака М. Федарэнкі. Выстаўка ў тэатры — навіна для магіляўчан. Ідэя яе арганізацыі належыць галоўнаму мастаку тэатра А. Белазёраву.

У Магілёве няма пастаяннай выставачнай залы. Выстаўкі ў тэатральным фае дазволяць магілёўскім мастакам рэгулярна рабіць справаздачы перад гледачамі. Услед за М. Федарэнкам будуць паказваць свае творы З. Шкляр, М. Аляксееў, Э. Карповіч, І. Моніч. З дапамогаю Дома народнай творчасці выстаўкі будуць экспанавацца ў раённых цэнтрах, сельскіх клубах.

## ПРАЗ ДЗЕСЯЦЬ ГОД

У клубах Магілёва з вялікім поспехам дэманструецца выстаўка «Магілёў праз дзесяць год». Асаблівую ўвагу наведвальнікаў прыцягвае план забудовы новага раёна горада па Мінскай шашы. Здымкі і чарцяжы паказваюць мікрараён «Магілёў-2», забудова якога ўжо вядзецца.

## ЛЕПШЫЯ КНІГАНОШЫ І ЧЫТАЛЬНІКІ

Падведзены вынікі работы сельскіх прапагандыстаў кнігі Магілёўскай вобласці. Іх у калгасах і саўгасах звыш 5 500 чалавек.

Кніганошы А. Анціпава і Е. Чурылава амаль штодзённа наведваюць Палыкавіцкую сельскую бібліятэку. Тут яны падбіраюць кнігі для чытачоў. Кожная з кніганошаў абслугоўвае шэсць сем'яў.

Лепшым кніганошам Дашкаўскай сельскай бібліятэкі прызнана жывёлавод Н. Панфёрава. Апроч выдачы кніг, яна рэгулярна праводзіць гутаркі з чытачамі.

Трактарыст В. Маркін прачытаў сёлета сваім суседзям уголас «Аповесць аб сапраўдным чалавеку» Б. Палявога, «Старую крэпасць» Ул. Бяляева, «Здзяйсненне жаданняў» В. Каверына, брашуру К. Арлоўскага «Які павінен быць кожны калгас», зборнік артыкулаў «Навука аб перадавым вопыце».

Дырэктар Краснапольскага Дома культуры І. Гараўскі прымае ўдзел ва ўсіх пастаноўках народнага тэатра, што створаны ў раённым цэнтры паўгода назад. У спектаклі па п'есе «Барабаншчыца» ён іграе Мітрафанава, у «Лявонісе на арбіце» — старшыню калгаса Буйневіча, у «Папараць-кветцы» — Жабрака. У апошняй з гэтых роляў вы і бачыце яго на здымку.

«Такому Жабраку пазайздросціць прафесіянальная сцэна», — сказаў пра ігру Гараўскага ў «Папараць-кветцы» адзін з рэжысёраў, які прымаў удзел у аглядзе народных тэатраў.

Фота В. ЛУК'ЯНЕНКІ.

Майстры мастацтва

# ЧАЛАВЕК З КІНАКАМЕРАЙ

Расказ пра старэйшага беларускага кінадакументаліста Уладзіміра Паўлавіча Цеслюка мне хочацца пачаць з аднаго эпізода. У невялікай зале Мінскай студыі навукова-папулярных і хранікальна - дакументальных фільмаў ішоў прагляд даваеннай беларускай кінахронікі. На экране мільгалі кадры, якія адлюстроўвалі час першых пяцігодак: першыя беларускія станкі і конку ў Мінску, першых выпускнікоў нашых інстытутаў і першыя трактары на вёсцы. Увогуле, тое, што цяпер для нас стала гісторыяй. Гэтыя пажоўклыя ад часу і нягод кінастужкі, няхай недасканалыя па тэхніцы, сёння хвалююць нас як кінадакументы першых крокаў нашай маладой дзяржавы...

Прамільгнулі апошнія кадры, успыхнула святло, а людзі ўсё яшчэ былі ва ўладзе толькі што перажытага — і самі аператары, тыя, што былі аўтарамі гэтых ужо гістарычных кадраў, і гледачы. Успаміны перанеслі нас у той час, гераіку і рамантыку тых дзён. Так, гэта было мінулае, але мінулае, адлюстраванае для будучыні...

І вось мы сядзім з Уладзімірам Паўлавічам ужо ў яго дома. На стол кладуцца фатаграфіі. Дзесяткі, сотні... Яны нібы ілюструюць нашу гутарку.

— Маё першае знаёмства з кіно, — гаворыць Уладзімір Цяслюк, — адбылося ў пачатку 1933 года. У газеце я прачытаў аб'яву, што сектару кінахронікі трэста «Белдзяржкіно» патрэбен тэхнічны сакратар.

А праз месяц дасціпны юнак ужо быў пераведзены на пасаду памочніка аператара. Абавязкі — нескладаныя: чысціць і заражаць апаратуру і дастаўляць яе на месца здымкаў. Часта на сабе. У лепшым выпадку — на рамізніку.

Але ў душы Уладзімір быў мастаком. Яму самому хацелася шляхам святла і плёнкі выказваць тое, што ён бачыў, адчуваў, думаў. І малады памочнік аператара пачынае спасцігаць тайны новай прафесіі. А пачынаў ён са штодзённай трэніроўкі роўна круціць ручку кіназдымачнай камеры. Бо тады яшчэ ў нас не было апаратуры з электраматорамі.

І вось першая здымка будаўніцтва аўтадарожнай магістралі Масква—Мінск. Ужо тут памочнік аператара, як кажуць, перарос свае функцыі, стаў творчым работнікам. Аператар дазволіў яму самастойна здымаць спачатку асобныя кадры, а потым і цэлыя эпізоды будучага фільма. Так пачалося творчае жыццё ў кінамастацтве Уладзіміра Паўлавіча Цеслюка.

Зноў на стол кладуцца фатаграфіі, усплываюць у памяці гады, падзеі. Такі ўжо лёс кіножурналіста — быць заўсёды на пярэднім краі, быць там, дзе нараджаецца новае, перадавое, многае бачыць і ўмець пра яго расказаць людзям так, як адчуваеш усё гэта сам, як патрабуе ад цябе абавязак прафесіі.

Кадры — гэта нібы радкі чалавечага жыцця, але не толькі твайго асабістага, але і твайго народа. І чым яны будуць больш ярка і цікава зняты, тым больш поўным атрымаецца кіналетапіс, які пішуць усе савецкія кінадакументалісты, тым больш моцнай і дзейснай будзе наша кінахроніка. Уладзімір Цяслюк разам са сваімі калегамі пачынае шукаць тое новае ў творчасці, што яшчэ невядома, што яшчэ схавана тайнамі прафесіі і часу. Сёння, калі глядзіш яго раннія работы, пераконваешся, якой неспакойнай была барацьба за новыя шляхі развіцця савецкага кінамастацтва.

Гэта ён зняў уручэнне М. І. Калініным першага ордэна Леніна Беларусі, зняў першыя беларускія станкі, пуск многіх першынцаў нашай індустрыі, першыя цёплыя сустрэчы на савецкай зямлі нашых слаўных сокалаў Чкалава, Байдукова, Белякова.

У 1936 годзе Уладзімір Паўлавіч здымае на граніцы, у Негарэлым, адных з першых савецкіх лаўрэатаў — пераможцаў конкурсу скрыпачоў і віяланчалістаў у Бруселі — Д. Ойстраха і М. Казалупаву. Гэта здымка была нялёгкай. Упершыню ў складаных вызных умовах яна праводзілася з запісам гуку. Усім хацелася паслухаць, як жа іграюць музыканты-лаўрэаты, якія ўславілі на ўвесь свет нашу Радзіму.

Майстэрства прыходзіць разам з унутраным патрабаваннем дасканаласці. Аднойчы летнім ранкам 1941 года Уладзімір Цяслюк разам з Міхаілам Беравым выехалі на здымку вучэнняў проціпаветранай абароны Мінска. Машына хутка ім-

